МИХАСЬ РОМАНЮК

# БЕЛОРУССКАЯ НАРОДНАЯ ОДЕЖДА

MIKHAS ROMANYUK

# BYELORUSSIAN NATIONAL DRESS

MIKHASS ROMANIOUK

# COSTUME NATIONAL BIELORUSSE

MICHAS ROMANJUK

# BELORUSSISCHE VOLKSTRACHT

MIJAS ROMANIUK

# EL TRAJE NACIONAL BIELORRUSO

ББК 85.12
Б 43

Ілюстрацыйны матэрыял альбома складаюць фотаздымкі і слайды адзення, зробленыя аўтарам у час экспедыцый 1967—1980 гг. Асобныя фотаздымкі ўзяты з фондаў дзяржаўных архіваў, музеяў і бібліятэк:

Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Мінск (81, 82, 96, 97, 141);

Беларускі дзяржаўны музей сацыялістычнага пераўтварэння Палесся. Пінск (14, 15, 33, 34, 108—110, 112, 115, 117, 120, 122, 194, 195, 197, 203);

Дзяржаўны музей этнаграфіі народаў СССР. Ленінград (242, 244, 252, 317, 318, 320, 321, 327, 355, 372, 378, 379, 381, 382);

Дзяржаўны музей Беларускай ССР. Мінск (119, 123—126, 140, 221, 223, 236, 238, 253, 308, 326, 350—354, 356, 361, 362, 421);

Дзяржаўная публічная бібліятэка імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Ленінград (237, 239, 243, 246, 249, 250, 251, 256, 257, 258, 265).

80102—192
Б ———————— 194—81 4904000000
М 301(05)—81

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Янка Купала

Кожнаму пакаленню застаецца ў спадчыну тое, што стварылі талент і працалюбства бацькоў, продкаў, тое, што выяўляе нацыянальнае аблічча народа, яго душу, яго імкненні, тое, што кожнае пакаленне павінна шанаваць і памнажаць.

«Усе народы,— пісаў В. Р. Бялінскі,— таму толькі і ўтвараюць сваім жыццём адзін агульны акорд сусветна-гістарычнага жыцця чалавецтва, што кожны з іх уяўляе сабою адметны гук у гэтым акордзе, бо з зусім аднолькавых гукаў не можа выйсці акорд»*.

Свая, цудоўная спадчына ў беларускага народа. Стагоддзямі, узбагачаючы і ўдасканальваючы, нягледзячы на цяжкія гістарычныя ўмовы, на ліхалецці войнаў, выраблялі беларусы ўзоры народнага мастацтва, у якім сцвярджалі свой эстэтычны ідэал, у якое ўкладвалі тонкі густ і высокае майстэрства. Адыходзіла і гублялася многае — лёс не песціў беларусаў. Але і тое, што засталося, раскрывае перад нашым сучаснікам па-мастацку дзівосны, па-філасофску мудры свет народа — пранікнёнага творцы і ашчаднага хавальніка лепшага, таленавітага. Беларуская народная творчасць — паэма жыцця беларускага народа на ўсіх этапах гісторыі, трапяткое люстра яго душы, невычэрпная крыніца творчага натхнення і мастацкіх вобразаў.

Яркім здабыткам нацыянальнай культуры Беларусі з'яўляецца народнае адзенне. Сфарміраванае ў выніку доўгіх і складаных працэсаў развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры народа, яно больш, чым іншыя сферы побыту, адлюстроўвае нацыянальную спецыфіку беларусаў. Таму лічыцца, што пасля мовы народнае адзенне — найважнейшая этнічная прыкмета. Глыбока і паэтычна выказала гэта простая беларуская сялянка. Яна хоча быць пахаванай ва ўборы сваёй маладосці, каб, паводле яе прыгожай фантазіі, продкі пазналі, «хто яна, хто мы як народ».

Сапраўды. Калі мы кажам «беларус, грузін, іспанец», то абавязкова хочам уявіць, як ён выглядае, як апрануты. Альбом «Беларускае народнае адзенне» і пакажа нам саміх сябе, пакажа ўсім, хто зацікавіцца, як выглядалі, як апраналіся беларусы, працоўныя людзі адной са славянскіх нацый. І поўныя ансамблі адзення, і кожная з яго частак — гэта, з аднаго боку, рэчы утылітарнага прызначэння, з другога — творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Народ заўсёды, ва ўсім — мастак. Усякі выраб яго рук адухоўлены шчырасцю пачуцця, расквечаны цікавай выдумкай. Пры гэтым ён практычна і эстэтычна мэтазгодны, пазбаўлены выпадковага, штучнага. Таму творы народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ва ўсе часы былі і застаюцца бясспрэчнымі ўзорамі сапраўднага мастацтва, дзейсна ўплываюць на сучасную культуру, на яе далейшае развіццё і ўзбагачэнне.

Згодна народным уяўленням, прыгажосць жанчыны заўсёды атаясамлівалася не толькі са знешнім выглядам, але і з яе працавітасцю, умельствам, густам. Калі надыходзіла пара выходзіць замуж, дзяўчына рыхтавала бацькоўскай сям'і і жаніховай радні багата аздобленыя кашулі, наміткі, паясы, ручнікі. Гэтым яна сведчыла свае здольнасці, рупнасць, кравецкі і вышывальны спрыт. У народных песнях хлопцу раіцца, якую дзяўчыну браць за жонку:

І не выбірай, Ясю, каторая гладка,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы мецена хатка.
Не ўважай, Ясеньку, каб была росла,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы ўмее ткаць кросна.
Не глядзі, Ясю, чы ў пацёрках шыя,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы кашулю ўшые...
Не ўважай, Ясю, чы пекне ў танцу ходзіць,
Сам глядзі, у людзей пытай, чы усенько зробіць.

Дэкор касцюма беларускіх сялян суладны з пяшчотнай мелодыяй народнай песні, мяккай пластыкай нацыянальнага танца, строгай велічнасцю драўлянага дойлідства. Цесная ўзаемасувязь і танальная зладжанасць мастацтва народнага касцюма з усімі праявамі творчай дзейнасці беларускага сялянства, з абрадамі, звычаямі — адна з самых яго вызначальных рыс. Як і ў іншых відах народнага мастацтва, у традыцыйным касцюме мы назіраем тэктанічную яснасць і пластычную выразнасць, паэтычную сілу і ліра-эпічную напружанасць. Маляўніча аздоблены, ён хараша ўпісваўся ў беларускі пейзаж, адпавядаў інтэр'еру сялянскай хаты з яго самабытнай мэбляй, ручнікамі, абрусамі.

Гістарычнае развіццё беларускага народнага адзення адбывалася ў непасрэднай сувязі з прыродна-кліматычнымі і сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі. Засцерагаючы чалавека ад холаду і спёкі,

* Белинский В. Г. Эстетика и литературная критика. М., 1959, т. 2, с. 319.

адзенне адпавядала таксама маральным патрабаванням, задавальняла эстэтычныя густы. У розныя часы і па-рознаму яно выконвала магічную і абрадавую функцыі, служыла сродкам адрознення паводле сацыяльнага паходжання, роду заняткаў. Па састаўных частках касцюма, спосабу нашэння, па кампазіцыйна-дэкаратыўнаму афармленню, каларыту і арнаментыцы можна было дазнацца, з якой мясцовасці чалавек, якое яго сямейнае становішча, узрост.

У святочным і абрадавым адзенні адлюстравалася само жыццё беларуса, яго светапогляд, адносіны да людзей. Ільняное белае адзенне з саматканкі спадарожнічала беларускаму селяніну ад нараджэння да смерці. У зіхатліва-белы мятлік апраналі немаўлятка, у далікатна вышытай кужэльнай кашулі апускалі нябожчыка ў магілу. Сама назва — Беларусь, як мяркуюць некаторыя гісторыкі, этнографы, паходзіць ад таго, што ўлюбёным колерам адзення беларусаў быў белы. Даўнімі традыцыямі было вызначана, якое адзенне насіць у будні ці свята, надзяваць на вяселле ці радзіны, з выпадку радасці ці жалобы. У пост, напрыклад, хадзілі ў «пасцяным» касцюме, у якім адсутнічаў чырвоны колер. У самае прыгожае ўбіраліся і да працоўнай урачыстасці: першы выган жывёлы «на юраўскую расу», свята першай баразны, першага снапа на ніве, першага пракосу на сенажаці.

Асабліва строгі і вытанчаны быў святочны касцюм маладзіц да нараджэння першага дзіцяці. Нібы гатычныя мадонны, павітыя ў бялюткія намёткі, апранутыя ва ўзорыста-маляўнічыя андаракі, велічна і грацыёзна хадзілі яны па роднай зямлі і, як усе жанчыны свету, адчувалі сябе ва ўрачыстых уборах высакароднымі і прыгожымі, шчаслівымі і радаснымі.

Менавіта жаночы касцюм з найбольшай яркасцю і паўнатой увасабляе мастацкае мысленне народа, багацце яго фантазіі, развітасць густу і пачуццё меры. Ён — найбольш яскравая і пераканальная частка рукатворнай спадчыны беларускага народа.

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА АДЗЕННЯ

Беларускае народнае адзенне фарміравалася на працягу стагоддзяў. Але асноўныя яго віды і састаўныя часткі, спосабы пашыву і кампазіцыйныя рашэнні, каларыстычныя і арнаментальныя асаблівасці пачалі складвацца з канца XIII ст. адначасова з фарміраваннем беларускай народнасці. Касцюм беларусаў развіваўся ў кантакце з касцюмамі рускіх, украінцаў, а таксама літоўцаў, палякаў, іншых народаў, і поруч са сваімі нацыянальнымі рысамі ён узбагачаўся іншанацыянальнымі.

У часы панавання стылю готыкі ўзнікла тэхніка крою, удасканальвалася кравецкае рамяство, што азначыла цэлы этап у гісторыі касцюма, у тым ліку беларускага. Нескладаныя канструкцыі і простыя сілуэты перыяду Кіеўскай Русі саступілі месца прынцыпова новым. У святочным, а потым і ў будзённым гарнітуры замацаваліся андарак, гарсэт, намітка. Кашуля ўскладнілася распрацоўкай крою, адкладным каўняром, світа — вытачкамі для стварэння аб'ёму, авальным падкроем праймы і аката рукавоў. Змясціліся акцэнты дэкору, а сам ён стаў больш разнастайны і вытанчаны. Усё гэта было крокам наперад у секулярызацыі касцюма ад хрысціянскіх догмаў, ад іх патрабавання старанна хаваць цела. Набліжаны да абрысаў чалавечай фігуры, эстэтычна змястоўны, ён адпавядаў духу рэнесансавага светаўспрымання. Беларускі касцюм XVI ст. меў характэрныя прыкметы касцюма эпохі Адраджэння, а з найбольш спецыфічных — тэндэнцыі да агульнай строгасці ансамбля, перавагі спалучэння белага з чырвоным у каларыстыцы, геаметрычных узораў у арнаментыцы. Беларускі касцюм набыў завершанасць як цэласная сістэма, свой утылітарны і мастацкі вобраз.

Далейшае яго развіццё ад XVII да сярэдзіны XIX ст. ішло не па шляху карэнных пераўтварэнняў, а па шляху тых ці іншых змен, звязаных з мадыфікацыяй элементаў адзення, насычэннем каляровай гамы, пераасэнсаваннем арнаментальных матываў, замацаваннем рэгіянальных адметнасцей. Аднак развіццё не было прасталінейным. Яно адбывалася ва ўмовах разлажэння феадальнага ладу і станаўлення капіталістычных адносін. У другой палове XIX ст., а ў раёнах з больш трывалым патрыярхальным укладам к канцу XIX — пачатку XX ст., разам з фарміраваннем беларускай буржуазнай нацыі яшчэ больш выразна акрэсліваецца этнаграфічнае аблічча беларускага народнага адзення як важнага паказчыка нацыянальнай культуры. Менавіта касцюм беларускіх сялян гэтай пары выступае як традыцыйны, класічны ўзор народнага мастацтва. Аднатыпны для ўсёй Беларусі, ён разам з тым мае шэраг лакальных разнавіднасцей — строяў.

Сярэднекантынентальны клімат беларускага краю вымагаў адносна цёплага і закрытага адзення. Матэрыял для яго давала мясцовая сыравіна — лён, радзей каноплі, воўна ў натуральнай і паўнатуральнай сялянскай гаспадарцы, вытканая ў хатніх умовах, на кроснах. Фарбавалі прыроднымі фарбавальнікамі — настоямі траў, кары, лісця і шышак дрэў, балотнай жалезнай рудой. Ільняныя тканіны, якія ішлі на кашулі, фартухі, галаўныя ўборы, не фарбаваліся. Белае палатно аздаблялі звычайна чырвоным геаметрычным арнаментам, які рабіўся натыканнем ці вышыўкай. У старажытнасці чырвоны колер сімвалізаваў жыццё, а нанесены з дапамогай

арнаменту на каўнер, разрэз пазухі, рукавы, ніз адзежыны служыў засцерагальным знакам. Ён жа адыгрываў істотную кампазіцыйную ролю, яднаючы часткі адзення ў мастацкае цэлае. Паліхромнасць уласціва суконным і паўсуконным тканінам паяснога адзення, а таксама поясу. Тут вышыўка амаль адсутнічае, а тканы ўзор вызначаецца сакавітасцю тонаў, смеласцю іх спалучэнняў — чырвоны, зялёны, сіні, белы. Удала выкарыстоўваліся ў аздобе касцюма натуральныя серабрыстыя тоны льну і воўны. З другой паловы XIX ст. са з'яўленнем анілінавых фарбавальнікаў і фабрычных нітак спектр колераў дапоўніўся аранжавым, фіялетавым, блакітным, малінавым, ярка-зялёным.

Традыцыйны комплекс мужчынскага адзення складаўся з палатнянай кашулі, нагавіц, камізэлькі. Кашулю насілі навыпуск, падпяразвалі поясам, калошы абкручвалі анучамі, абувалі лапці, скураныя пасталы, пазней — боты. Галаўным уборам былі саламяны капялюш ці валеная магерка. Закончанасць ансамблю прыдавала скураная сумачка-шабета, якую падвешвалі цераз левае плячо ці да пояса. Мужчынскі касцюм сціплы паводле аздаблення. У ім пераважаў белы колер, а дэкор прыпадаў на каўнер, пазуху кашулі і перш-наперш на кідкі ў вочы рознакаляровы пояс з кутасамі.

Асабліва высокага ўзлёту фантазіі і майстэрства мастацтва беларускага народнага адзення дасягнула ў жаночым касцюме. Самабытнасць яго вызначае самабытнасць нацыянальнага касцюма беларусаў увогуле. Так, найважнейшая частка адзення — кашуля, якую насілі ў любым узросце, сацыяльным і сямейным становішчы, у будні і святочны дзень,— увабрала ў сябе, як у фокус, характэрныя канструкцыйныя прыёмы і дэкаратыўныя прынцыпы беларускага касцюма. У залежнасці ад крою ў жаночай кашулі вылучаюцца тры асноўныя тыпы: тунікападобная; з прамымі плечавымі ўстаўкамі; з гесткай. Каля адкладнога, радзей стаячага каўняра тканіна прызбіралася і аблягала шыю, а спераду каўнер завязваўся чырвонай жычкай або зашпільваўся на шпонку ці гузік; прызбіраўся на каўнерац і ніз рукава. Найбольшую ўвагу звярталі на ўпрыгожанне рукавоў, што звязана з мастацкай тэктонікай і пластыкай касцюма, а таксама з верай у магічную сілу чырвонага рамбічнага арнаменту, які нібыта засцерагаў рукі ад злых духаў, надаваў моц і дужасць як асноўным у працы. Разнастайнае паясное адзенне беларускіх жанчын: многія віды спадніц (андарак, палатнянік, саян, летнік), панёвы, фартухі. Іх кроілі з некалькіх прамавугольных полак і багата аздаблялі. Дэкаратыўны малюнак спадніцы і панёвы — клетка, падоўжныя або папярочныя палосы ў чырвоным, сіне-зялёным ці серабрыста-белым каларыце.

Кампазіцыйна-арнаментальнае вырашэнне фартуха адпавядала вырашэнню кашулі і гарманізавалася з ёю. Апрача таго, фартух упрыгожваўся карункамі, махрамі і быў прыкметнай часткай касцюма. У жаночае, асабліва святочнае, убранне ўваходзіў таксама гарсэт. Звычайна ён меў выгляд кароткай безрукаўкі, якая шчыльна абхоплівала стан і рабіла фігуру зграбнай і жаноцкай. Шылі гарсэт пераважна з мануфактурных тканін (аксаміт, парча, шоўк) чорнага, блакітнага, малінавага колеру, кроілі з глыбокім выразам пазухі і баскай па нізе, якая вырашалася фальбонамі ці клінамі, аздаблялі нашыўкамі стужак, тасёмак, гузікаў.

Абавязковым элементам комплексу быў рознакаляровы, звычайна чырвона-зялёна-белага арнаменту, пояс — тканы, плецены ці вязаны, з кутасамі, махрамі або пампонамі. Прычоскі і галаўныя ўборы строга залежалі ад узросту і сямейнага становішча жанчыны. Традыцыйная прычоска дзяўчат — адна ці дзве касы з уплеценымі каснікамі, а галаўныя ўборы — перавязкі накшталт вузкіх ручнічкоў (скіндачка, шлячок), вянкі. Замужняй кабеце не дазвалялася паказвацца на людзях з непакрытай галавой. Адсюль — большая складанасць і разнастайнасць галаўных убораў. Па сваёй будове яны падзяляюцца на ручніковыя (намітка, сярпанка, хустка), рагацістыя (галовачка, сарока, рожкі), каптуровыя (каптур, чапец). Самы пашыраны і самы адмысловы ўбор — намітка. Яна мноствам спосабаў павівалася вакол галавы на спецыяльным каркасе, канцы яе прыгожа драпіраваліся на спіне, а постаць жанчыны атрымлівала выключную статнасць і велічнасць.

Будзённым абуткам жанчын служылі лапці, святочным — скураныя пасталы і чорныя хромавыя чаравічкі.

Верхняя мужчынская і жаночая вопратка мала адрознівалася паміж сабой. Яе шылі з валенага нефарбаванага сукна (світа, сярмяга, латушка, бурка, бурнос), аўчыны (кажух, кажушок, казачына). Дэкаратыўнасць найбольш выяўлялася ў святочных світах і кажушках, якія па-майстэрску кроіліся, упрыгожваліся шнурком, аплікацыяй, вышыўкай. Кажухі і кажушкі былі белыя недублёныя, пазней чырвона-вохрыстыя дублёныя.

Своеасаблівае люстра шматвяковага жыцця народа, касцюм беларусаў канца XIX — пачатку XX ст., усе яго формы не былі аднароднымі, як не было аднародным само сялянства, расслаенне на кулацтва і беднату сярод якога ішло ў гэты перыяд вельмі інтэнсіўна. Рост таварна-грашовых адносін, масавага адыходніцтва, пранікненне ў вёску прамысловых вырабаў размывалі «жанравыя» межы традыцыйнага народнага касцюма. Якраз на піку сваёй класічнай ураўнаважанасці ён зазнаў адчувальныя змены. Ды і ўнутраныя законы самога мастацтва выклікалі далейшыя зрухі, абнаўленне эстэтычных ацэнак. Моцны ўплыў гарадскога касцю-

ма з яго тэндэнцыяй да спрашчэння і універсалізацыі форм, шырокае выкарыстанне тэхнічных фарбавальнікаў з яго тэндэнцыяй да паліхромнасці і расквечвання тканін і іншае прадракалі карэнныя пераўтварэнні народнага касцюма. Аднак з прычыны адсталасці матэрыяльнай базы, нізкага жыццёвага ўзроўню насельніцтва такія пераўтварэнні не маглі адбыцца.

Толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая непазнавальна змяніла ўсе сферы жыцця, народнае адзенне беларусаў уступае ў якасна новы этап развіцця. Адны віды і састаўныя часткі адзення выйшлі з ужытку, а тыя, што захаваліся, і тыя, што ўзніклі, сталі зручнымі і дасканалымі. Поруч з ільнянымі і шарсцянымі тканінамі распаўсюдзіліся баваўняныя, шаўковыя і іншыя. З'явіліся невядомыя раней матэрыялы, спосабы аздаблення. І мужчынскі, і жаночы касцюмы сталі багатымі, разнастайнымі, сугучнымі свайму часу.

У 20—30-я гады XX ст. шматколернасць і сакавітасць фарбаў пашыралі сферу бытавання на кашулі, фартухі, хусткі. Каларыт адзення рабіўся больш стракаты, спалучэнне колераў — больш смелае. Замест чыстых і глыбокіх тонаў пачалі прымяняць пераходныя. Гублялася семантыка традыцыйнага для Беларусі геаметрычнага арнаменту, усё большае месца адводзілася раслінным узорам. У строгую геаметрыю ўзорыстых тканін і вышывак урываюцца матывы, якія называюць: «ружы», «валошкі», «незабудкі», «званочкі», а дзе-нідзе паяўляюцца стылізаваныя выявы галубкоў, паўлінаў і іншыя заалагічныя матывы. Выкарыстоўваючы фарбавыя нюансы, майстрыхі дасягаюць каляровасветаценевага эфекту, і да сярэдзіны XX ст. акрэсліваецца новая ступень у развіцці мастацкіх сродкаў беларускага народнага касцюма: плоскасны малюнак набывае ілюзію аб'ёму.

Магутная матэрыяльна-тэхнічная база сацыялізму, няўхільны рост дабрабыту працоўных, павелічэнне вытворчасці тавараў народнага ўжытку, расшырэнне сеткі прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання абумовілі гістарычна апраўданае затуханне традыцый народнага касцюма. Але ён быў і застаецца невычэрпнай крыніцай натхнення, матываў і вобразаў для сучасных прафесійных творцаў, выдатным помнікам народнага дэкаратыўнаприкладного мастацтва.

## АСНОЎНЫЯ КОМПЛЕКСЫ І ЛАКАЛЬНЫЯ РАЗНАВІДНАСЦІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА АДЗЕННЯ

Мелодыя беларускага народнага адзення шматгалосая. Адзінства ў шматграннасці выяўляецца ў ім на ўсёй этнічнай тэрыторыі беларусаў і найбольш рэльефна ў жаночым касцюме.

Паводле таго, з чым насілася кашуля (а ў сярэдзіне XX ст. блуза) у летнім убранні, у ім вылучаюцца чатыры асноўныя комплексы: са спадніцай (андарак, палатнянік) і льняным фартухом; са спадніцай (андарак, палатнянік), ільняным фартухом і гарсэтам (насілі яго і самастойна); са спадніцай (саян, андарак), да якой прышыты ліф-гарсэт, і льняным ці паркалёвым фартухом; з панёвай (тыпу плахты ці фартуха-запаскі), суконным фартухом, гарсэтам і поясам. Першыя два комплексы вядомы на ўсёй Беларусі, два другія — ва ўсходніх і паўднёва-ўсходніх раёнах. Кожны з іх па-свойму адлюстроўвае эвалюцыю касцюма ад старажытных, пазбаўленых крою адзежын з прамавугольных кавалкаў тканіны, да вытанчаных форм з багатай «інкрустацыяй» фальбонамі, складкамі, вытачкамі, швамі. У кожным адбіліся таксама асаблівасці побыту пэўных гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў, такіх, як Заходняе і Усходняе Палессе, Прыдняпроўе, Цэнтральная Беларусь, Панямонне, Надзвінне.

Комплексы маюць шэраг разнавіднасцей, якія ўвасабляюць стылёвыя прынцыпы народнай творчасці ў тых ці іншых кутках Беларусі. Гэтыя лакальныя разнавіднасці і вылучаюцца як асобныя тэрытарыяльныя строі. Яны адрозніваюцца толькі асобнымі элементамі касцюма, характарам аздаблення (тэхнікай выканання арнаменту, яго сюжэтам, матывамі), каларытам, а таксама спосабамі нашэння частак касцюма. Геаграфічныя межы строяў выражаны не рэзка, бо былі зменлівыя ў розныя часы і залежалі ад сацыяльна-эканамічнага ўзроўню развіцця мясцовасці, прыродна-кліматычных умоў, якія ўплывалі на дыферэнцыяцыю гаспадаркі, адміністрацыйнага, царкоўнага і прыватнаўласніцкага падзелу тэрыторыі, кантактаў з насельніцтвам іншых нацыянальнасцей і г. д.

**Заходняе Палессе.** Беларускае Палессе — непаўторны ў прыродных і этнаграфічных адносінах край — край песень і казак, легенд і паданняў, а касцюм яго — жамчужына беларускага народнага мастацтва. Тут зберагліся поўныя хараства і мудрасці народныя ўборы, сама традыцыя апранацца ў самаробнае, маляўніча аздобленае адзенне. Менавіта на Палессі лакалізуюцца мастацкія асаблівасці з'яў, невядомых у іншых мясцінах Беларусі. Так, толькі на Брэстчыне сустракаецца цяжкая, з воўны спадніца — бурка, толькі тут яшчэ ў 30—50-я гг. нашага стагоддзя маладзіцы ўвіваліся акалястымі наміткамі — платамі, а свахі на вяселлі ўбіраліся ў «рожкі» ці «кветкі» — галаўныя ўборы з пукамі фарбаванага пер'я.

*Кобрынскі строй* вызначаецца манументальнасцю і класічнай завершанасцю форм, віртуознай распрацоўкай арнаменту, велічнасцю і стройнасцю (дзякуючы кужэльнай намітцы) касцюма жанчын.

*Пінска-Івацэвіцкаму строю* ўласцівы прастата форм, чысціня ліній і сілуэта. *Мотальскі строй* выступае варыянтам Пінска-Івацэвіцкага. Вылучаецца белізной і тонкасцю кужалю, стрыманасцю арнаменту. *Дамачоўскі строй* цікавы стройнасцю і выразнасцю пруталенага сілуэта, сакавіта-мажорнай напружанасцю каларыту. *Маларыцкі строй* адметны архаічнымі элементамі адзення і галаўных убораў, маштабнасцю прапорцый, скульптурнай яснасцю ансамбля.

**Усходняе Палессе.** Багаццем сродкаў мастацкага афармлення касцюма, разнастайнасцю старадаўніх і сучасных форм Усходняе Палессе не ўступае Заходняму. Вобразна-пластычнымі асаблівасцямі адзення яно блізкае да Цэнтральнай Беларусі і Прыдняпроўя. *Калінкавіцкі строй* — адна з вяршынь мастацтва беларускага народнага касцюма. Ён урачыста-маляўнічы і ў той жа час стрыманы, зачароўвае мяккай паэтычнасцю і вытанчанасцю густу. *Брагінскі строй* багаты разнастайнасцю форм паяснога адзення і шыйных упрыгожанняў, выкарыстаннем раслінных узораў у арнаменце. *Турава-Мазырскі строй* характарызуе стан нацыянальнага касцюма сярэдзіны XX ст. У ім шмат сучасных форм з паркалю, саціну; каларыту адзення ўласціва паліхромнасць, вышытыя гладдзю раслінныя ўзоры, якія ствараюць ілюзію аб'ёму. У *Давыд-Гарадоцка-Тураўскім строі* раскрываюцца архаічныя рысы касцюма тутэйшых местачкоўцаў. Своеасаблівую фантастычнасць і самавітасць надавалі яму арыгінальныя галаўны ўбор галовачка, гарсэт, ахоплены шырокім поясам, доўгая спадніца сукня, ускладнёныя здымныя ўпрыгожанні.

**Прыдняпроўе.** Вялікі водны шлях па Дняпры, этнаграфічнае сумежжа трох брацкіх народаў — беларусаў, рускіх і ўкраінцаў, узаемнае ўзбагачэнне культур садзейнічалі ўтварэнню ў Прыдняпроўі змешаных тыпаў касцюма. Тут замацаваліся таксама невядомыя ў іншых рэгіёнах тэхнікі ўзорыстага ткацтва (закладная), вышыўкі (гафт, тамбурнае шво), прыём маршчэння (збіранне тканіны ў гафрыраваныя складкі). У арнаменце сустракаюцца матывы дрэва жыцця, пальметы; вышыўка чырвонага або чырвона-чорнага колеру суседзіць з ахраматычнай гамай белага ці чорнага ўзору на серабрыста-белым фоне палатна.

*Магілёўскі строй,* у якім былі два комплексы (кашуля, спадніца і фартух; кашуля, спадніца, фартух і гарсэт), сціплы і просты паводле аздаблення. Маляўніча павіваліся наміткі і саматканыя хусткі. *Буда-Кашалёўскі строй* адрозніваецца белым ці чорным каларытам вышывак, інтэнсіўным маршчэннем, гафтаваннем. Шырокія рукавы кашулі, неаздоблены чорны гарсэт ствараюць эпічны і выразны сілуэт касцюма. *Краснапольскі строй* вабіць багаццем кампазіцыйна-арнаментальных вырашэнняў. Кашулі ў ім кроіліся звычайна з гесткай, комплекс са спадніцай і прышыўным ліфам-гарсэтам нагадвае сарафан. *Неглюбскаму строю* ўласцівы комплекс з панёвай (тыпу платы), агульнае ўражанне ад якога — мажнасць і статнасць. У дзявочы гарнітур уваходзілі паясная адзежына калышка, галаўны ўбор кубак.

**Цэнтральная Беларусь.** У цэнтральнабеларускіх строях найбольш яскрава выяўляецца стрыманасць і паэтычнасць нацыянальнага касцюма. Народныя майстры цураюцца, пазбягаюць знешняй эфектнасці і імпазантнасці вырабаў, імкнуцца да ўнутранай цэльнасці, гатычнай манументальнасці і тонкай выразнасці ансамбля.

У *Пухавіцкім строі* адлюстроўваюцца класічна-традыцыйныя прынцыпы мастацкага вырашэння адзення Цэнтральнай Беларусі: стройнасць і некаторая выцягнутасць лініі фігуры, ашчаднае, але змястоўнае аздабленне. Гарманічную ўраўнаважанасць *Капыльска-Клецкаму строю* прыдавалі чырвоны каптур, зялёны або цёмна-сіні гарсэт, вясёлкавыя пералівы андарака, прастата і яснасць арнаменту. Вобразная сістэма *Слуцкага строю* — у вялікіх, нібы буслянка, галаўных уборах (адмыслова павітая хустка), доўгіх цёмных гарсэтах, у амаль поўнай адсутнасці натыкання і вышыўкі. Вышыўка не адыгрывае вялікай ролі і ў *Вілейскім строі,* дзе народныя майстры як мага паўней выкарыстоўвалі прыродныя якасці льну, сукна ці крамных тканін. Прыкметнымі часткамі адзення былі тут аксамітны ці шаўковы каптур і суконны бурнос. *Ляхавіцкі строй* уражвае арыгінальнасцю і маляўнічасцю жаночых галаўных убораў (падвічка, намітка ці хустка, аздобленая пукамі зеляніны, букетамі кветак), сакавіта-напружанымі колерамі андаракаў і спадніц-выбіванак, разнастайнымі шыйнымі, нагруднымі і наспіннымі ўпрыгожаннямі (пацеркі, стужкі, абразкі).

**Панямонне.** Касцюм Панямоння мае шмат агульнага з цэнтральнабеларускім. Назіраецца схільнасць, асабліва ў паясным адзенні, да зялёнага і валошкавага колераў. Касцюм гэтага рэгіёна рана зазнаў уплыў гарадской моды, што адбілася ў спецыфіцы верхняй вопраткі.

*Ваўкавыска-Камянецкі строй* — узор выключнай адпаведнасці крою і аздаблення касцюма постаці чалавека. Дынамічнасць і ўзнёсласць мастацкага вобраза дасягалася каскадам складак андарака, світкі і выбеленага кужалю наміткі. Адметныя часткі *Навагрудскага строю* — кашуля-гарсоўка, чорны з кляпамі баскі гарсэт, кароткая з белага сукна абціслая курта (жакетка). У аздабленні вытрымліваецца своеасаблівы рытм і маштаб дэталей. *Мастоўскі строй* спалучае сакавітасць тонаў цёмна-сіняга ці малінавага андарака з адносна беднай распрацоўкай арнаменту. Выразная частка касцюма — кароткая курта (разнавіднасць світы).

**Наддзвінне.** У параўнанні з іншымі рэгіёнамі Наддзвінне найменш захавала старадаўнія і традыцыйныя формы адзення. З прычыны геаграфічных і сацыяльна-эканамічных фактараў тут у сярэдзіне XX ст. распаўсюдзіўся касцюм накшталт гарадскога, а ў вырабе тканін — ручная набойка. Менавіта набойка істотна паўплывала на вобразна-пластычны і арнаментальна-каларыстычны лад касцюма. У строях наглядаецца ўлюбёнасць у блакітны колер і дробнаклятчасты ўзор у паясным адзенні. Асноўным з'яўляўся комплекс з прышыўным ліфам, у асобных раёнах — сарафан. Абавязковым кампанентам жаночага гарнітура быў фартух.

*Дубровенскі строй* мае даўні (са спадніцай, ільняным фартухом і куртай — безрукаўка з сукна, пацягненага белым каленкорам) і больш позні (са спадніцай, прышыўным ліфам і поясам) комплексы. Чырвона-бардовы колер вышывак часта дапаўняецца блакітным і жоўтым. *Лепельскі строй* характарызуецца спалучэннямі белага, блакітнага, вохрыста-жоўтага і чорнага колераў у аднатонных ці пярэстатканых спадніцах, лагічнай кампазіцыяй дэкору і яснай архітэктонікай.

Мастацкая спадчына беларускага народнага адзення яркая і непаўторная. Неад'емная частка духоўных здабыткаў нацыі, яна дапамагае фарміраваць культурны воблік сучасніка, плённа паслужыць новым пакаленням. Беларусь, якая заняла «свой пачэсны пасад між народамі» (Я. Купала), ганарыцца сваёй спадчынай па праву, па высокаму сыноўняму абавязку.

Данная работа раскрывает и классифицирует типичные черты белорусской национальной одежды. В ней рассматриваются разнообразные виды и формы народного костюма, способы и приемы его кроя, пошива, колористико-композиционного решения, художественно-декоративной отделки и орнаментики, особенности ношения. Выделяются характерные признаки нарядов различных регионов Белоруссии.

Датировка иллюстраций альбома приурочена ко времени бытования предмета. Дается история традиционной одежды, описываются основные составные части и конструктивные элементы народного костюма, который складывался с XIII в., одновременно с формированием белорусской народности, отмечается роль его в современной жизни, практике моделирования и сценографии.

Главное внимание уделено женской одежде, с наибольшей яркостью и полнотой воплощающей художественное мышление народа, богатство его фантазии, развитость вкуса и чувство меры. В ансамбль женской одежды входили рубаха, юбка, передник, пояс, горсет, головной убор, обувь.

Рубаха («кашуля») из льняного домотканого полотна, крой туникоподобный, с прямыми плечевыми вставками или на кокетке. Ткаными или вышитыми узорами из красной, красно-черной пряжи украшались обычно рукава, плечевые вставки, воротник, пазуха (при различном композиционно-орнаментальном оформлении в выделенных регионах). Юбка («спадница», «андарак»), шерстяная или льняная, разнообразна по цвету и узору (клетка, полоса). Белый льняной передник колоритом и орнаментом близок к рубахе. Безрукавка («горсет») – часть праздничного костюма – изготовлялась из фабричных тканей (шелк, бархат) разных расцветок, украшалась нашивками. Пояс разнообразен по цветовой гамме и орнаменту. Головные уборы девушек – венки, узкие рушники («скиндочка»), у замужних женщин – чепцы, капоры и др., но самой распространенной была намитка в виде рушника, которая искусно драпировалась множеством способов. Дополнялся костюм бусами.

Мужская одежда состояла из льняной рубахи навыпуск, узких брюк, пояса. Рубаха имела разрез на груди, отложной воротник. В отдельных регионах на нее надевали безрукавку («камизелька»). Дополнялся костюм кожаной сумочкой («калита»). Головными уборами были магерки, соломенные шляпы («брыль», «капелюш»), зимой – овчинные «кучмы» или «аблавухи» на меху. Из верхней одежды мужчины и женщины носили белые или серые свиты из сукна, белые или охристо-красные кожухи и кожушки, кожаные постолы (реже сапоги) и лыковые лапти.

В едином комплексе белорусской национальной одежды местной спецификой выделяется ряд отдельных законченных нарядов («строй»). Автор выделяет 6 регионов (Центральная Белоруссия, Понеманье, Наддвинье, Поднепровье, Западное и Восточное Полесье), а в них 22 самостоятельных наряда.

Лучшие достижения национальной белорусской одежды используются и переосмысливаются художниками-модельерами, в разработке сценических костюмов, мастерами народных художественных промыслов, остаются источником творческого вдохновения, высоким образцом искусства.



The present album breaks down and classifies the peculiar features of the Byelorussian national dress. It covers the various types and forms of folk costume, techniques and methods of cutting out and making clothes, colour and composition aspects, trimmings and patterns as well as specific ways of wearing different garments. Costume peculiarities common in this or that region of Byelorussia are discussed.

The pictures in the album are dated by the time when the given set was most widely worn. The historical background, evolution, component parts and major details of the traditional national costume are described. Its role in modern fashion developing, theatre setting and dress making is emphasized.

The bulk of the information in the book involves women's wear which most vividly and fully incarnates artistic concepts maintained by the people, the scope of their phantasy, level of civilization and sense of proportion. Women's set consisted of a gown, skirt, apron, waist-band, garset, head-dress and foot-gear.

The gown (kashulia), made of home-spun linen, had a tunic-like cut with straight shoulder insets or a yoke. Sleeves, shoulder insets, collar and bosom were ornamented with woven or embroidered patterns in red-and-black yarn, the composition of ornamenting depending on the region where the set belonged. The skirt (spadnitsa or andarak), made of wool or linen, varies in colour and pattern (might be checked or striped). The white linen apron had colouring and ornamenting similar to those of the gown. The waistcoat (garset), detail of a brightly coloured and ornamented festive attire, was made of industrially manufactured textiles, such as silk and velvet. The waist-bands also differed in colour gamut and ornament. On their heads young girls would wear coronets and narrow head-towels (skindochka), while married women wore bonnets and hoods. Still most women preferred namitkas (head-towels) which were skilfully draped in many ways. Strings of beads completed the costume.

Men's set included a linen shirt worn over the trousers, a waist-band and a pair of narrow trousers. The shirt had a bosom cut and a turn-down collar. In certain regions a waistcoat (kamiselka) was worn over it. A leather hand-bag called calita was part of the garment, too. The head-dress was a maguerka or a straw-hat (bryl, kapeliush) and in the winter people would wear sheepskin hats or rabbit-fur hats with ear-flaps. Warm outside clothes included white and grey wollen svity, white or raddle sheepskin and leather coats, leather or bast sandals, sometimes boots, etc.

In the integral system of the Byelorussian national dress a number of individual specific groups may be singled out. In the author's opinion they fall into six districts: Central Byelorussia, Neman lands, Dvina lands, Dnieper lands, western and eastern Polessye, which, in their turn comprise 22 individual sets. The best samples of Byelorussian national dress are widely used by dress-makers and handicraftsmen and serve an inexhaustible source of creative inspiration and a unique specimen of art.



Le présent ouvrage fournit les traits typiques du costume national biélorusse et leur classification. On y trouvera des types et formes différents du costume folklorique, les procédés de coupe et de couture, de construction de compositions chromatiques, d'ornement décoratif et les particularités de port. Les traits distinctifs des costumes nationaux selon les régions sont mis en relief.

Les illustrations de l'album sont pourvues de dates relatives à l'époque où l'on portrait ces vêtements. L'auteur du texte décrit l'histoire, les pièces composantes et les éléments constructifs du costume folklorique qui se formait depuis le XIII[e] siècle, simultanément avec la formation du peuple biélorusse, le rôle que ce costume joue dans la vie contemporaine, dans la pratique de confection des modèles et la scénographie.

L'attention de l'album est centrée sur le costume féminin. C'est pour la raison que la création artistique du peuple, la richesse de sa fantaisie, le niveau de goût y trouvent la pleine incarnation. L'ensemble du costume féminin est composé d'un chemisier, d'une jupe, d'un tablier, d'une ceinture, d'un corselet, d'une coiffure, de chaussures.

Le chemisier (kachulia) est en toile de lin tissée à la main, de coupe en tunique, à pièces droites rapportées sur les épaules ou à empiècement. Les manches, les pièces rapportées sur les épaules, le col, la poitrine étaient généralement garnis de dessins brodés ou tissés en filé rouge et noir-rouge (bien que l'ornement du costume varie selon les régions indiquées). La jupe (spadnitsa, andarak) en lin ou en laine présente une multitude de couleurs et de dessins (à carreaux, à rayures). Le tablier blanc de lin est coloré et orné presque de la même façon que le chemisier. Le corselet, une pièce des habits du dimanche, était confectionné en tissus manufacturés (soie, velours) multicolores, garnis d'applications. La gamme chromatique et l'ornement de la ceinture sont bien variés. Les jeunes filles couvraient la tête de couronnes d'étoffe, de mouchoirs de tête étroits (skindotchka) et les femmes mariées, de bonnets, de capelines et d'autres coiffures, mais la coiffure la plus répandue était une namitka en forme de couronne d'étoffe, dont on connaissait maintes procédés de drapage. L'ensemble était complété d'un collier de verroterie.

Le costume masculin était constitué d'une chemise de lin ceinturée, tombant sur un pantalon étroit. La chemise était fendue sur la poitrine et avait un col rabattu. Dans certaines régions, on mettait dessus un gilet (kamiselka). Le costume était complété d'une bourse de cuir (kalita). Les coiffures étaient des chapeaux de feutre sans bords (magherka), des chapeaux de paille (bryl, kapeluche). En hiver, les hommes se coiffaient de chapeaux en peau de mouton ou de toques fourrées à protège-oreilles. Les hommes et les femmes portaient comme vêtement de dessus des manteaux de bure blancs ou gris, des pelisses longues et courtes, blanches ou ocres rouges, des chaussures de cuir (bottes moins souvent) et des espadrilles tressées en tille (lapti).

Le costume national biélorusse comporte une série d'ensembles complets à traits spécifiques. L'auteur distingue cinq régions (Polésie est et ouest, région du Dniepr, Biélorussie centrale, région du Niémen et région de la Dvina) où l'on trouve 22 ensembles complets.

Aujourd'hui, les modélistes ne cessent d'utiliser les meilleures qualités du costume national biélorusse, en lui donnant une interprétation moderne. Le costume folklorique est employé pour l'étude des costumes de théâtre et aussi dans les artisanats d'art. Il demeure la source d'une inspiration créatrice et le modèle d'un art sublime.



Das vorliegende Werk betrachtet und klassifiziert typische Züge der belorussischen Volkstracht, verschiedene Arten und Formen der Kleidung, ihren Schnitt, Fertigungstechnik, koloristische und kompositionelle Lösung, Verzierung und Ornamentieren sowie Besonderheiten des Tragens. Dabei werden charakteristische, regional bedingte Eigenschaften der Trachten Belorußlands hervorgehoben.

Die Abbildungen stammen aus der Zeit des Vorkommens der Kleidungsstücke. Der Autor gibt einen Einblick in die Geschichte der herkömmlichen Tracht, beschreibt Bestandteile und Elemente der Volkskleidung, deren Bildung seit dem 13. Jh. mit der Formierung der belorussischen Völkerschaft einherging. Heute spielt die Volkstracht eine wichtige Rolle im Leben des Volkes, der Kultur und der Modegestaltung.

Besonders eingehend wird die Frauenkleidung betrachtet, die die künstlerische Denkweise des Volkes in vollstem Maße verkörpert und seine reiche Phantasie, vollkommenen Geschmack und Gefühl für das rechte Maß verrät. Die Frauenkleidung bestand aus Bluse, Rock, Schürze, Gürtel, Schnürleib, Kopfbedeckung und Schuhen.

Die Bluse aus hausgewebtem Leinen, tunikaartig zugeschnitten, war mit geraden Schultereinsätzen oder Passe versehen. Ärmel, Schultereinsätze und Kragen zeigten gewebte Muster oder Stickereien aus roten oder schwarz-roten Fäden (bei unterschiedlichen Gestaltungsarten und Ornamenten in verschiedenen Regionen). Der Rock (Spadniza oder Andarak) aus Wollstoff oder Leinen ist verschiedenartig in Farbe und Muster (kariert oder gestreift). Die weiße leinene Schürze ist in ihrer Farbgebung und Ornament auf die Bluse abgestimmt. Der Schnürleib als ein Teil der Festkleidung wurde aus fabrikmäßigen Stoffen (Seide oder Samt) verschiedener Farben angefertigt und mit Besätzen verziert. Der Gürtel zeichnet sich durch unterschiedliche Farbenzusammenstellungen und Ornamente aus. Als Kopfbedeckung dienten bei den Mädchen Kränze, schmale Tücher (Skindotschka), bei verheirateten Frauen verschiedenartige Hauben, Kapuzen, sehr verbreitet aber war ein Tuch (Namitka), das um den Kopf geschlungen und kunstvoll drapiert wurde. Halsschmuck bestand aus Glasperlen.

Die Männer trugen leinene überhängende Hemden, enge Hosen und Gürtel. Das Hemd hatte einen Brustausschnitt und einen Umlegekragen. In manchen Orten wurde darüber eine Weste angezogen. Eine Ledertasche (Kalita) komplettierte die Tracht. Als Kopfbedeckung dienten verschiedene Mützen (Magerka), Strohhüte (Bryl oder Kapeljusch), im Winter Schaffellmützen. Zur Oberbekleidung der Männer und Frauen gehörten weiße oder graue Tuchkittel, weiße oder ockerrote Schafpelze oder Jacken, die Fußbekleidung bestand aus Lederschuhen (seltener Stiefeln) und Bastschuhen.

Bei all der Gemeinsamkeit der belorussischen Volkstracht lassen sich doch mehrere regional bedingte, abgeschlossene Trachten feststellen. Der Autor hebt fünf Regionen hervor: Mittelbelorußland, Nemangebiet, Dwinagebiet, Dneprgebiet, West- und Ostpolessje. Innerhalb dieser Regionen konnten 22 selbständige Trachten bestimmt werden.

Die besten Errungenschaften der belorussischen Volkstracht werden von Künstlern, Modellierern und Kunsthandwerkern weitgehend verwendet. Als bedeutende Muster der Volkskunst bleiben sie nach wie vor eine Quelle schöpferischer Begeisterung.



El presente trabajo expone y clasifica los rasgos típicos del vestuario nacional bielorruso. En él se dan los diversos tipos y formas del traje popular, los procedimientos y formas de su corte, costura, de la realización colorística y de composición, del acabado y ornamentación decorativa, las peculiaridades de su uso. Se destacan los rasgos característicos de los atavíos de las diversas regiones de Bielorrusia.

En las ilustraciones del álbum el fechado coincide con la época de uso de las prendas. Se da la historia del vestuario tradicional, se describen las partes componentes principales

y los elementos estructurales del traje nacional, el que se fue formando desde el siglo XIII, al mismo tiempo que se formaba la nacionalidad bielorrusa; se destaca su papel en la vida contemporánea, en la práctica de modelación y en la escenografía.

Se presta una preeminente atención al vestuario de la mujer, el que encarna con más brillo y profundidad el pensamiento artístico del pueblo, la riqueza de su fantasía, el desarrollo del gusto y el sentido del buen parecer. Formaban parte del conjunto del vestuario para la mujer la camisa, la falda, el delantal, el cinturón, el chaleco, el tocado y calzado.

La camisa «kashula» de tela de lino de manufactura doméstica, de corte en forma de túnica, con aplicaciones rectas en los hombros o en el canesú. Generalmente se adornaban con dibujos tejidos o bordados de hilo de color rojo, rojinegro las mangas, las aplicaciones, el cuello, la pechera (con diversos adornos ornamentales y de composición en las regiones destacadas). La falda «spadnitsa», «andarak», de paño o lino, muy diversa por su color y dibujo (cuadro, franja). El delantal blanco de lino por su colorido y ornamentación es similar a la camisa. El chaleco, «garset», es una parte del traje de fiesta, se confeccionaba de tejidos fabricados (seda, terciopelo) de diferentes colores, se adornaba con aplicaciones. El cinturón tiene una diversa gama de colores y ornamentos. Los tocados para jóvenes, las coronas, un tipo de turbante angosto «skidochka»; para las mujeres casadas, cofias, capuchas y otros, pero el más difundido fue la «namitka», en forma de una franja de tela drapeada de diversos modos. El traje se completaba con collares.

El vestuario del hombre consistía de una camisa de lino suelta, pantalones angostos y el cinto. La camisa tenía un corte en el pecho y cuello vuelto. En algunas regiones sobre ella se usaba el chaleco «kamizelka». Se completaba el traje con un bolso de cuero «kalita». Para cubrir la cabeza usaban los sombreros sin alas «maguerka», sombreros de paja «bril», «kapeliush»; en invierno, gorros de piel de oveja. y el gorro de orejeras. Como ropa de abrigo los hombres y las mujeres usaban abrigos de paño «svita», pellizas y pellizas cortas blancas o de color rojo-ocre, abarcas de cuero (con menos frecuencia botas) y un tipo de alpargatas de liber.

En la integridad compleja del vestuario nacional bielorruso se distinguen por sus particularidades regionales una serie de atavíos con sus propias características.

El autor distingue cinco regiones (la de Bielorussia central, del Neman, del Dviná, del Dniepr y de Polesia Occidental y Oriental) y en ellos 22 atavíos independientes. Los mejores logros del vestuario nacional bielorruso se utilizan y se reaprecian por los diseñadores de modelos contemporáneos en la elaboración de trajes para la escena, por los maestros de la industria artesanal nacional, quedan como fuentes de inspiración creadora, como una elevada muestra de éste.

# ЗАХОДНЯЕ ПАЛЕССЕ

ЗАПАДНОЕ ПОЛЕСЬЕ

WESTERN POLESSYE

POLÉSIE OUEST

WESTPOLESSJE

POLESIE OCCIDENTAL

1
Убор свацці. Сярэдзіна XX ст.
Павіцце, Кобрынскі раён.





2

Летняе традыцыйнае адзенне. 1930-я гг.
Моталь, Іванаўскі раён.

3

Падол спадніцы. Фрагмент. 1920-я гг.
Узорнае ткацтва.
Чэрск, Брэсцкі раён.

4

Святочныя ўборы жанчын. Пачатак XX ст.
Варатынічы, Кобрынскі раён.

5
Традыцыйныя касцюмы дзяўчат.
Пачатак XX ст.
Яромічы, Кобрынскі раён.



6
Традыцыйныя касцюмы замужніх жанчын. 1920-я гг.
Збураж, Маларыцкі раён.



7
Жанчына ў старадаўнім касцюме з наміткай. 1920-я гг.
Яўсімавічы, Кобрынскі раён.

8
Жанчыны ў традыцыйным адзенні з чапцамі. 1930-я гг.
Аброва, Івацэвіцкі раён.



9
Жаночае летняе адзенне. Сярэдзіна XX ст.
Лелікава, Кобрынскі раён.

10
Жанчына ў намітцы. Пачатак XX ст.
Яромічы, Кобрынскі раён.



11, 12
Жанчына ў старадаўнім касцюме з наміткай. 1920-я гг.
Яўсімавічы, Кобрынскі раён.

13
Жанчына ў світцы (латушка). Пачатак XX ст.
Варатынічы, Кобрынскі раён.





14, 15
Жаночы святочны ўбор. Канец XIX ст.
Ліпава, Кобрынскі раён.



16
Дзяўчына ў традыцыйным касцюме. 1920-я гг.
Астромічы, Кобрынскі раён.

17, 18
Рукавы жаночых кашуль. Канец XIX ст. Вышыўка.
Яромічы, Кобрынскі раён.

19, 20
Рукавы жаночых кашуль. Пачатак XX ст. Вышыўка.
Варатынічы, Кобрынскі раён.















21, 23

Рукавы жаночых кашуль. Фрагменты. Сярэдзіна XIX ст. Вышыўка. Яромічы, Кобрынскі раён.

22

Рукаў жаночай кашулі. Фрагмент. Пачатак XX ст. Узорнае ткацтва, вышыўка. Лука, Кобрынскі раён.

24

Летні жаночы ўбор. 1930-я гг.
Варатынічы, Кобрынскі раён.

25

Святочнае ўбранне маладухі. 1920—1930-я гг.
Хабовічы, Кобрынскі раён.









26

Фартух. Пачатак XX ст. Узорнае ткацтва, вышыўка.
Добрае, Кобрынскі раён.

27

Фартух. Пачатак XX ст. Вышыўка.
Варатынічы, Кобрынскі раён.

28

Традыцыйныя касцюмы дзяўчат. Пачатак XX ст.
Яромічы, Кобрынскі раён.

29
Жанчына ў традыцыйным касцюме з наміткай. Пачатак XX ст.
Варатынічы, Кобрынскі раён.



30, 31
Жанчыны ў традыцыйных касцюмах з наміткамі. Пачатак XX ст. Варатынічы, Кобрынскі раён.







32
Жанчына ў намітцы. Пачатак XX ст.
Дзівін, Кобрынскі раён.

33, 34
Жанчыны ў традыцыйных касцюмах.
1920—1930-я гг.
Дзівін, Кобрынскі раён.

35
Дзяўчына ў світцы (латушка).
1930-я гг.
Верхалессе, Кобрынскі раён.

36, 37
Жанчына ў світцы (латушка). 1920-я гг.
Дзівін, Кобрынскі раён.











38, 39

Жанчына ў кажушку. Сярэдзіна XX ст.
Навасёлкі, Кобрынскі раён.

40

Кажушок. Фрагмент. Сярэдзіна XX ст.
Вышыўка.
Залессе, Кобрынскі раён.







41, 42

Святочны кажушок. Сярэдзіна XX ст
Хабовічы, Кобрынскі раён.

43

Кажушок. Фрагмент. Сярэдзіна XX ст
Вышыўка.
Хабовічы, Кобрынскі раён.



44

Летні святочны касцюм дзяўчыны. Пачатак XX ст.
Варатынічы, Кобрынскі раён.

45

Дзяўчына ў гарсэце. Пачатак XX ст.
Моталь, Іванаўскі раён.

46
Жанчына ў святочнай намітцы. Пачатак XX ст.
Тышкавічы, Іванаўскі раён.

47, 48
Жаночы святочны ўбор. Пачатак XX ст.
Тышкавічы, Іванаўскі раён.





49
Жанчына ў гарсэце. 1930-я гг.
Тышкавічы, Іванаўскі раён.

50
Жанчына ў традыцыйнай кашулі.
Сярэдзіна XX ст.
Асаўніца, Іванаўскі раён.



51, 52
Традыцыйны дзявочы касцюм.
1930-я гг.
Моталь, Іванаўскі раён.











53, 54

Мотальскі кажушок. 1970-я гг.
Моталь, Іванаўскі раён.

55

Мотальскі кажушок. 1980-я гг.
Моталь, Іванаўскі раён.









56

**Традыцыйны мотальскі кажух. Канец XIX ст. Асаўніца, Іванаўскі раён.**

57

**Мотальскі кажушок. Фрагмент. 1970-я гг. Вышыўка.**

58, 59

**Традыцыйны мотальскі кажушок. Фрагменты. Канец XIX ст. Аплікацыя. Асаўніца, Іванаўскі раён.**

60

Святочныя ўборы дзяўчат і маладых жанчын. 1910-я гг.
Чэрск, Брэсцкі раён.

61

Хлапецкі гарсэт (кабат). 1910-я гг. Вышыўка.
Чэрск, Брэсцкі раён.

62, 63

Жаночы гарсэт. Фрагменты. Пачатак XX ст. Вышыўка, аплікацыя.
Чэрск, Брэсцкі раён.

64

Арнамент фартуха. Фрагмент. Сярэдзіна XIX ст. Вышыўка.
Медна, Брэсцкі раён.











65

Сяляне ў святочных уборах. 1910-я гг.
Чэрск, Брэсцкі раён.

66

Фартух. 1910-я гг. Узорнае ткацтва, карункі.
Дамачова, Брэсцкі раён.







67, 69

Фартухі. 1910—1930-я гг. Узорнае ткацтва, аплікацыя, карункі.
Дамачова, Брэсцкі раён.

68

Спадніца. 1930-я гг. Узорнае ткацтва.
Чэрск, Брэсцкі раён.

70

Жанчына ў традыцыйнай кашулі. 1940-я гг.
Лелікава, Кобрынскі раён.

71

Жанчыны ў традыцыйных касцюмах. 1920—1930-я гг.
Збураж, Маларыцкі раён.

72

Жанчына ў спадніцы (бурка). 1930-я гг.
Ляхаўцы, Маларыцкі раён.

73

Фартух. Фрагмент. 1930-я гг. Вышыўка.
Ляхаўцы, Маларыцкі раён.

74

Фартух. 1930-я гг. Вышыўка, карункі.
Замшаны, Маларыцкі раён.







75, 76

Традыцыйны жаночы касцюм. Пачатак XX ст.
Гарохавішча, Маларыцкі раён.

77

Жаночае святочнае ўбранне з наміткай. Канец XIX ст.
Макраны, Маларыцкі раён.





